# САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТ




**Свабода! Справядлівасць! Салідарнасць!**

Бюлетэнь БСДП (Грамады), г. Магілёў, №1, люты 2013г.

## ПАВАЖАНЫЯ МАГІЛЁЎЦЫ!

**Сябры Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) распачынаюць інфармацыйную кампанію, мэтаю якой з'яўляецца абавязковае выкарыстанне мясцовымі ўладамі Грамадскіх слуханняў у выпадках, калі адбываецца ўшчыльненне жылых раёнаў, знос раёнаў прыватнай забудовы альбо здача ў арэнду зямлі агульнага карыстання.**

Мы назіраем за грамадскім жыццём нашага горада і бачым існуючыя недахопы ў заканадаўстве. Праз сваю кампанію мы хочам унесці прапановы мясцовым уладам аб наданні большай увагі існуючым праблемным кропкам і магчымасці іх безканфліктнага вырашэння.

Мы хочам, каб праз Грамадскія слуханні мясцовыя ўлады абмяркоўвалі свае жаданні з мясцовым насельніцтвам. Гэтая мера здолее зняць сацыяльную напружанасць, канфлікты жыхароў з мясцоваю ўладаю, а таксама будзе спрыяць шырокаму ўсебаковаму абмеркаванню, дзе кожны мае права выказацца і быць пачутым.

У выніку гэтай кампаніі плануецца распрацоўка пісьмовых зваротаў да прадстаўнікоў гарвыканкама, аблвыканкама, гарадскога і абласнога Саветаў дэпутатаў. Пад дадзеным зваротам будзе адбывацца збор подпісаў зацікаўленых у гэтым гараджан.

Жадаючыя прыняць удзел у круглым стале прысвечанаму дадзенай праблематыцы могуць накіроўваць свае заяўкі са зваротнымі кантактамі на электронны адрас gazetanm.eu@gmail.com. З вамі абавязкова звяжуцца.

Кожны з вас можа прыняць удзел у гэтым абмеркаванні. Тэкст звароту, з магчымасцямі каментаваць яго, будзе знаходзіцца на старонках мясцовага сайту газеты “НАШ Магілёў” па адрасу www.gazetanm.eu. Сачыце за абнаўленнямі сайта.

*З павагай,*
*Сябра Прэзідыўма БСДП (Грамады) ад Магілёўскай вобласці,*
*Ігар Барысаў.*

## БЕЛАРУСКАЯ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ (ГРАМАДА)

**Наша партыя з'яўляецца пераемніцай заснаванай у 1903 годзе Беларускай Сацыялістычнай Грамады. На пачатку мінулага стагоддзя партыя ўзнікла дзякуючы намаганням выбітных дзеячоў беларускага руху братоў Антона і Івана Луцкевічаў, а таксама Вацлава Іваноўскага.**

У 1991 годзе намаганнямі прыхільнікаў сацыял-дэмакратычнай ідэалогіі была заснавана **Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада**, якая пазней змяніла сваю назву на **Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Грамаду)**. Лозунгамі нашай партыі з'яўляюцца Свабода, Справядлівасць, Салідарнасць. Мы выступаем за прынцыпы праваой дзяржавы і дэмакратыі.


Ірына Вештард старшыня БСДП (Грамады)

Мы перакананыя, што сацыяльны прагрэс, сацыяльная справядлівасць, разняволенне чалавека немагчымыя без дэмакратыі.

Пад дэмакратычным сацыялізмам мы разумеем грамадскі кантроль над прыватнай і дзяржаўнай уласнасцю, які рэалізуецца праз удзел наёмных работнікаў у кіраванні вытворчасцю і размеркаванні прадуктаў працы і прыбыткаў, гэта магчымасць дабівацца няўхільнага паляпшэння якасці жыцця.

**Кіраўнічкай партыі з'яўляецца Ірына Вештард.**

Трэба адзначыць, што ў шэрагах БСДП знаходзяцца былы другі старшыня Вярхоўнага Савета генерал-лейтэнант Мечыслаў Грыб, экс-міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў генерал-маёр Валеры Фралоў, кіраўнік “Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны” Алег Трусаў, экс-дэпутат Вярхоўнага Савета 12 склікання Леанід Дзейка, гісторык Анатоль Сідарэвіч і іншыя не менш выбітныя асобы.

**BSDP.ORG**

сайт прыхільнікаў БСДП (Грамады)

**bsdpps@tut.by**

адрас электроннай скрыні БСДП (Грамады)

Бюлетэнь Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады)

**Галоўны рэдактар ВІТОЛЬД НЯЎРЫДА**

Надрукавана ў Магілёве на ксераксе
Наклад 299 асобнікаў
Распаўсюд бясплатны.

Выраблены пра тэхнічнай падтрымцы рэдакцыі газеты «НАШ Магілёў»

e-mail: gazetanm.eu@gmail.com

# ЛЕАНІД ПАДБЯРЭЦКІ: ПРА ЗНОС «ЧАПАЕЎКІ» УСЕ ДАЗНАЛІСЯ З ЭКРАНАЎ ТЭЛЕВІЗАРАЎ

**Адным з тэзісаў падчас сваёй передвыбарчай кампаніі ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь пятага склікання па Магілёўскай-Ленінскай выбарчай акрузе №84 Леанід Падбярэцкі абраў недапусцісь зносу раёна "Чапаеўкі".**



На фота Леанід Падбярэцкі

Нягледзячы на тое, што пасля актыўна праведзенай ім агітацыйнай кампаніі ён афіцыйна атрымаў усяго 4% галасоў выбаршчыкаў ён усё-роўна працягвае дапамагаць людзям у вырашэнні мясцовых праблем.

"Усё што я абяцаў сваім выбаршчыкам я працягваю рабіць. Дзесці дабіўся таго, што яму заасфальтавалі, а дзесьці даў кансультацую што рабіць і куды звяртацца ў праблемнай сітуацыі. Праблема зносу "Чапаеўкі" усё яшчэ застаецца актуальнай. Адна з супрацоўніц вертыкалі арганізавала збор подпісаў, каб гэтага не дапусціць, аднак вынікі гэтага збору невядомыя – з адказамі ўлады яна не дае азнаёміцца. Дапускаю, што яна магла гэта рабіць для нейкай галачкі", - кажа Леанід Падбярэцкі.

Сябра Цэнтральнага камітэта БСДП (Грамады) паведамляе, што будзе і надалей уздымаць пытанне аб недапушчэнні зносу цэлага раёна, нягледзячы на распрацаваны генеральны план развіцця Магілёва да 2030 года.

"Сітуацыя з "Чапаеўкай" дагэтуль незразумелая. Зараз усё заціхла, але я, у тым ліку як жыхар гэтага раёна, хачу быць перакананы, што знос соцен дамоў не адбудзецца ў бліжэйшай перспектыве. Я буду дамагацца прыняцця больш канкрэтнага Закона ці Рашэння мясцовымі ўладамі, каб любое дзеянне на "Чапаеўцы" абмяркоўвалася з жыхарамі, чые інтарэсы яно закранае, каб абавязкова праводзіліся Грамадскія слуханні", - гаворыць экс-кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў.

**У Каляровым варыянце бачна, што пазначаны стрэлкай раён «Чапаеўкі» азначае тэрыторыю шматпавярховай забудовы. Генплан развіцця горада распрацаваны да 2030 года. Грамадскія слуханні не праводзіліся**



Леанід Падбярэцкі кажа, што раён "Чапаеўкі" вельмі прывабны сваім месцаразмяшчэннем – ён знаходзіцца недалёка ад чыгуначнага вакзала і каб дабрацца ад яго да цэнтра горада не трэба шмат часу. Акрамя таго замест старых драўляных дамоў людзі пачалі будаваць сучасныя элітныя катэджы.

""Чапаеўцы" патрэбен не знос, а паляпшэнне яе інфраструктуры – неабходны асфальтаваныя дарогі і тратуары, а таксама газ і каналізацыя там, дзе гэтага яшчэ няма. На гэтым раёне ўжо вырасла мінімум тры пакаленні магілёўцаў, якія называюць сябе "чапаеўцамі". Зносіць малапавярховыя дамы ні ў якім разе не трэба. Вучоныя даказалі, што сем'і, якія жывуць у сваіх дамах у два разы больш моцныя. Калі нашая ўлада рупіцца аб сваіх грамадзянах, то яна не дапусціць знішчэння "Чапаеўкі"", - адзначае Леанід Падбярэцкі.

Актывіст кажа, што людзі не павінны сядзець і чакаць што будзе, а ўжо зараз мусяць прадпрымаць разнастайныя дзеянні, у тым ліку далучацца да інфармацыйнай кампаніі, якую праводзяць актывісты Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады).

# У МАГІЛЁВЕ ЁСЦЬ ДВА ПРЫКЛАДЫ ПАСПЯХОВАГА ПРАВЯДЗЕННЯ ГРАМАДСКІХ СЛУХАННЯЎ

**Гэта рэдкі выпадак, калі ўлада да канца адпавядала закону і прыслухалася да думак простых магілёўцаў.**



На фота праект пашырэння ГЦ «Магніт»

Гутарка ідзе пра тое, калі грамадскасць заблакавала будаўніцтва офіснага будынку прадпрыемства «Сервалюкс» на месцы былога касцёла Святога Ксаверыя, а таксама не дапусціла пашырэння гандлёвага цэнтра «Магніт». Паводле прадстаўнікоў грамадскасці новы будынак «Магніта» засціў бы сабой будынак музея імя Масленікава, які размяшчаецца ў былым будынку зямельна-сялянскага банка.



На фота праект будаўніцтва офіса «Сервалюкс»

# ВЯСКОЎЦЫ СУДЗЯЦЦА З ДЭПУТАТАМ ЗА ЗЯМЛЮ

**Поле пад Магілёвам перадалі фермеру-дэпутату з парушэннем заканадаўства: грамадскія слуханні сярод мясцовых жыхароў не праводзіліся.**



На фота Зміцер Яўстратаў

Пасля калектыўнай скаргі грамадзян абласная пракуратура прызнала факт парушэння заканадаўства Магілёўскім райвыканкамам пры перадачы зямельнага ўчастка галаве сялянска-фермерскай гаспадаркі “Пралеска” Юрыю Коршунаву, аднак да ліквідацыі выяўленых парушэнняў справа так і не дайшла.

Ад такога неахайнага рашэння мясцовай улады пацярпелі жыхары вёскі Нядашава-2 Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці. Новы ўладальнік зямлі засеяў луг кукурузай і такім чынам абмежаваў доступ вяскоўцаў да вадасховішча і пазбавіў людзей традыцыйнага адпачынку ля вады. Скардзіцца жыхар вёскі Нядашава-2 Зміцер Яўстратаў:

“У нас быў луг, на якім мы адпачывалі. Мы маглі спакойна падысці да вадаёма і раптам, у адзін момант мы бачым, што па нашым лузе ідуць трактары, якія яго ўзворваюць і вынішчаюць дрэвы, якія растуць на ім. Вось такім чынам мы даведаліся пра тое, што гэты кавалак зямлі перададзены сялянска-фермерскай гаспадарцы “Пралесак”.

Дагэтуль зямля знаходзілася ў межах населенага пункта Нядашава-2 і выкарыстоўвалася грамадзянамі для выпасу буйной рагатай скаціны і адпачынку грамадзян у водаахоўнай зоне ракі Шчацінка”.

Мужчына адзначае, што адразу пасля гэтага выпадку мясцовыя жыхары арганізаваліся і пачалі калектыўна дамагацца адказаў на свае пытанні. Адпаведныя лісты і скаргі былі накіраваныя ў аблвыканкам, пракуратуру і Адміністрацыю прэзідэнта. Аднак чыноўнікі перасылалі скаргі той установе, на якую скардзіліся.

Пракуратура правяла праверку — вызначыла, што зямля перададзена ў пажыццёвую арэнду фермеру Юрыю Коршунаву з парушэннямі. Былі дысцыплінарна пакараныя некалькі чыноўнікаў, аднак зямля дагэтуль так і застаецца ў фермера. Ніякіх зменаў пасля скаргаў так і не адбылося. Каб ссунуць справу з мёртвай кропкі, жыхары падалі заяву ў суд Ленінскага раёна Магілёва.

“Мне складана знайсці прычыну, чаму так адбы-лося, але я так разумею, што гэта агульная тэндэнцыя для любога выканкама — прымаць рашэнні тайна і без уліку грамадскай думкі. На жаль, склалася сітуацыя, калі органы мясцовай улады не жадаюць прыслухвацца да думак грамадзян.

Яны не лічаць магчымым дапусціць гэтых грамадзян да прыняцця рашэнняў. Я лічу, што каб пазбегнуць канфліктаў паміж мясцовымі жыхарамі і ўладаю неабходна было праводзіць Грамадскія слуханні і пытаць у людзей іх згоды на выдачу зямлі фермеру, або шукаць нейкага кампрамісу ў гэтым пытанні”, - гаворыць Зміцер Яўстратаў.

***каб пазбегнуць канфлікта паміж мясцовымі жыхарамі і ўладаю неабходна было праводзіць Грамадскія слуханні і пытаць у людзей іх згоды на выдачу зямлі фермеру, або шукаць нейкага кампрамісу ў гэтым пытанні***

Трэба адзначыць, што галава сялянска-фермерскай гаспадаркі “Пралеска” Юрый Коршунаў з'яўляецца дэпутатам Магілёўскага раённага і сельскага Саветаў дэпутатаў, а таксама кіраўніком асацыяцыі фермераў па Магілёўскай вобласці.

Варта дадаць, што Зміцер Яўстратаў далучыўся да ініцыятывы БСДП (Грамады) па падрыхтоўцы звароту да мясцовых органаў улады з мэтай пашырыць практыку ўжывання Грамадскіх слуханняў у Магілёве і Магілёўскім раёне.




# ФЕРМЕР-ДЭПУТАТ РАСПАХАЎ СТАРАЖЫТНЫЯ КУРГАНЫ

**Адразу пасля гэтага вёска стала прыцягальная для чорных капачоў.**

Жыхар вёскі Нядашава-2 Магілёўскага раёна Зміцер Яўстратаў кажа, што пасля таго, як мясцоваму фермеру Юрыю Каршунову ўлады далі зямлю ён узяўся яе прыводзіць у парадак – спілаваў дрэвы, прыбраў камяні з луга і ... распахаў трактарамі старажытныя курганы.

“Я неаднаразова бачыў людзей з мінашукальнікамі. Яны проста ходзяць па распаханай зямлі і дастаюць з яе розныя арцефакі – манеты, рэшткі старажытных упрыгожванняў. Сам прайшоўся і знайшоў жменю старажытных манет з надпісамі на лацініцы”, - кажа Зміцер Яўстратаў.

Актывіст гаворыць, што пра наяўнасць у вёсцы курганаў ведалі ўсе, аднак ніхто іх не чапаў, у тым ліку археолагі.

“Я пракансультаваўся з гэтай нагоды ў археолага Ігара Марзалюка, які мне паведаміў, што на месцы Нядашава-2 магло знаходзіцца раней невядомае селішча, якое і было раскапанае. Манеты, якія я знайшоў там, ён датаваў 16-17 стагоддзем і аднёс іх да часоў ВКЛ”,- гаворыць Яўстратаў.

Археолаг паабяцаў, што ў пачатку археалагічнага сезону выедзе са студэнтамі ў гэтую мясцовасць на раскопкі.

# КАБ ЧЫНОЎНІКІ СУСТРЭЛІСЯ З НАРОДАМ СПАТРЭБІЛАСЯ ТРЫ МІТЫНГІ

**А Грамадскія слуханні з нагоды будаўніцтва новага дома ў мікрараёне “Юбілейны” аказаліся ўмоўнасцю, бо пазіцыі мясцовых жыхароў так ніхто і не ўлічыў.**

У канцы лістапада 2012 года ў Магілёўскім мікрараёне “Юбілейны”, па вуліцы Каралёва, дзе мусіў паўстаць новы шматпавярховы элітны дом, адбылося тры стыхійных мітынгі, якія штораз збіралі не менш за 100 чалавек.

Людзі былі абураныя тым, што ў адзін момант тэрыторыя побач з іхнімі “хрушчоўкамі” была абнесена плотам і неўзабаве мусілі пачацца будаўнічыя працы. Аб тым, што павінна быць пабудавана ў гэтым месцы грамадзяне не ведалі – іх ніхто ні аб чым не інфармаваў.

Месцічы абураліся яшчэ і таму, што пад пагрозай знішчэння аказаўся і бярозавы гаёк, які быў высаджаны імі каля 40 год назад і налічваў 560 дрэваў.

“Гаёк стаў улюблёным месцам для нашага адпачынку, - кажа жыхарка “Юбілейнага” Людміла, - людзі сталага веку прагульваюцца па яму, маладыя – гуляюць з дзецьмі. Калі яго знішчуць, то мы пазбавімся адзінага зялёнага месца для адпачынку”.

Яшчэ адзін жыхар раёна Аляксандр гаворыць, што ўзвядзенне новага дома засціць ад света бліжэйшыя “хрушчоўкі”, створыць дадатковую транспартную праблему, а таксама павялічыць ціск у вадаправодзе. У выніку гэтага будуць непазбежны частыя прарывы труб і напор вады ў старых дамах на вышэйшых паверхах будзе мінімальным.

***каб людзі не дазнаваліся аб планах уладаў тады, калі прыганяецца будаўнічая тэхніка і агароджваецца тэрыторыя пад будоўлю трэба дамагацца правядзення папярэдніх Грамадскіх слуханняў***

Прадстаўнік ТАА “Домабудаўніцтва” Канстанцін Кожыч адважыўся на сустрэчу з мітынгоўцамі і прыехаў ім расказаць, што да чаго, аднак застаўся не толькі не пачуты, але яшчэ і абражаны грамадзянамі.

“Для будаўніцтва дома мы спілавалі ўсяго 14 дрэваў. Большасць з іх прызнана хворымі. Магілёўскі “Зелянгас” за наш кошт мусіць высадзіць 42 дрэвы ў іншых частках горада – мы аплачваем гэтыя выдаткі. Сама ж будоўля адбываецца паводле зацверджанага раней генеральнага плана і ўзгоднена з кіраўніком горада Станіславам Барадаўка, які даў свой дазвол на будаўніцтва”, - гаворыць Канстанцін Кожыч.

Падчас гэтак званых “Грамадскіх слуханняў” на сустрэчу з грамадзянамі прыйшло пяць чыноўнікаў, пераважна з аддзелаў архітэктуры. Людзей сабралася зноўку каля сотні.





“Чыноўнікі сказалі, што сустрэча носіць інфармацыйны характар і яны мусяць праінфармаваць людзей аб тым, што збіраецца будавацца на новым месцы. Людзі задавалі процьму пытанняў, прасілі перанесці будоўлю на 30 метраў, каб не пілаваць гаёк, аднак пазіцыя чынавенства была непахісная. Маўлялі, што транспартная і, адпаведна, экалагічная праблемы існуюць амаль ва ўсіх частках горада, а бярозавы гаёк не мае афіцыйнага статуса сквера ці парку, таму на яго месцы і можна будаваць дамы ў адпаведнасці з генпланам”, - гаворыць удзельнік сустрэчы Яўген.

Трэба адзначыць, што паводле заканадаўства, калі зацверджаны генеральны план развіцця горада, то не трэба праводзіць Грамадскія слуханні. Аднак, што рабіць калі пляцоўка, дзе мусіць паўстаць дом, за 40 год змянілася карэнным чынам (на яе месцы жыхарамі быў высаджаны бярозавы гаёк) і закранае інтарэсы грамадзян? Відавочна, што існуе хіба ў закандаўстве.

Варта дадаць, што як толькі будзе завершана будоўля дома, які выклікаў пратэсты жыхароў “Юбілейнага”, на месцы бярозавага гайка мусяць паўстаць яшчэ тры такіх жа дома, а гэта непазбежна прывядзець да вырубкі гайка.

Грамадскі актывіст Аляксей Паўлоўскі, які пражывае ў суседнім мікрараёне “Тэхнапрыбор” кажа, што збіраецца дапамагчы суседзям дамагацца таго, каб Грамадскія слуханні пры будаўніцтве новых дамоў сталі нормай.



На фота Аляксей Паўлоўскі

“У бліжэйшы час мы падрыхтуем адпаведны зварот да прадстаўнікоў мясцовай улады. Пад зваротам будуць збірацца подпісы жыхароў. Мы хочам, каб улада нас пачула і заўсёды раілася з народам і абмяркоўвала з ім свае планы. Грамадскія слуханні актуальны для жыхароў “Юбілейнага” яшчэ і таму, што пасля будаўніцтва перашага дома па плану мусяць паўстаць яшчэ тры дамы, а гэта кажа пра тое, што будзе выбрублены бярозавы гаёк”, - гаворыць Аляксей Паўлоўскі.

Актывіст гаворыць, што каб людзі не дазнаваліся аб планах уладаў тады, калі прыганяецца будаўнічая тэхніка і агароджваецца тэрыторыя пад будоўлю, трэба дамагацца правядзення папярэдніх Грамадскіх слуханняў і актыўна падпісвацца пад ініцыятывай сябраў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады), каб надаць Грамадскім слуханням у Магілёве больш шырокае ўжыванне.